СТАРЫ АЛЬБОМ



1959 год. Так выглядала сённяшняя Цэнтральная плошча ў Маладзечне. Былая плошча імя Леніна. Яшчэ знаходзіцца ў рыштаваннях будынак Маладзечанскага абкома партыі (цяпер будынак політэхнічнага тэхнікума). Хаця дзесьці ў Маскве ёсць планы аб ліквідацыі адной з самых буйных абласцей Беларусі. Падзел яе паміж Гродзенскай, Віцебскай і Мінскай адбудзецца праз год. Яшчэ не знесеная хатка на выездзе з горада на Валожын. З часам сюды перамясціўся з плошчы Свабоды (яшчэ раней Гандлёвай плошчы, а цяпер – Старога Места) цэнтр горада. А ў будынак гаркома партыі (злева) яшчэ не ўехалі Фуджы–цэнтр і музычная школа, што адбылося ў 90–х. Яшчэ...

ФОТА З ФОНДАЎ МІНСКАГА АБЛАСНОГА КРАЯЗНАЎЧАГА МУЗЕЯ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ.

КУЛЬТУРА

## Ніл Гілевіч і Рыгор Барадулін

МАЛАДЗЕЧНА. Творчая сустрэча са знакамітымі беларускімі літаратарамі і навукоўцамі пройдзе **сёння ў канцэртнай зале музвучылішча імя Агінскага**. Пачатак а 17–й гадзіне. Уваход на сустрэчу – бясплатны.

## Дзве гадзіны мелодый у Нарачанскім краі

МЯДЗЕЛ. Заключны, трэці тур агляду мастацкай самадзейнасці ў рамках фестывалю "Беларусь - мая песня" завяршыўся канцэртам лепшых мастацкіх калектываў (клубныя ўстановы Княгініна, Дзягіляў, Баяр, Выгалавіч, Восава і раённы Дом культуры) на свяце "Гуканне вясны", што адбылося 28 сакавіка на цэнтральнай плошчы. Канцэрт доўжыўся больш за 2 гадзіны.

Супрацоўнікі аддзела культуры задаволеныя ўзроўнем праведзенага агляду і яго вынікамі, а ў цэлым было прагледжана 60 калектываў.

Да свята песні, што традыцыйна праводзіцца на возеры Нарач у першую нядзелю ліпеня, яшчэ шмат часу, але работа па яго падрыхтоўцы пачалася. Калектывы мастацкай самадзейнасці атрымалі рэпертуар для рэпетыцыйнай работы – песні пра Нарач для іх выканання на свяце зводным хорам, які будзе налічваць каля 1000 удзельнікаў.

Віншавальныя мерапрыемствы да Вялікадня пройдуць у клубных установах раёна.

## "Журавінка" – "Візітная картка вобласці"

ВАЛОЖЫН. Такое ганаровае званне атрымаў калектыў "Журавінка" (Івянецкі Дом культуры, мастацкі кіраўнік **Іосіф Ляшчынскі**) да паспяхова пацверджанага ў мінулую суботу ў Вілейцы звання "народны".

Да сусветнага дня здароўя ў кінатэатры "Юнацтва" прайшоў вечар пытанняў і адказаў "Здаровая маці - здаровае дзіця" (ініцыятыва і выкананне раённага аддзела культуры і раённага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання).

МАЛАДЗЕЧНА. З канцэртнай праграмай на вечары, прысвечаным памяці **Т. Шаўчэнкі** (11 красавіка, драматычны тэатр), выступіць хор ветэранаў вайны і працы "Надзея" Дома культуры чыгуначнікаў.

*Тэрэса ВАСІЛЬЕВА.*

ЗАЛАТЫ ФОНД НАЦЫІ

## Школьнікі (9-11 кл.), пераможцы рэспубліканскіх алімпіяд

| | прозвішча | клас, школа | прадмет | адзнака | настаўнік |
|---|---|---|---|---|---|
| **Маладзечна** | Алег Самаль | 11 кл., гімназія | ням. мова | Дыпл. I ст. | Людміла Казак |
| | Вольга Ганецкая | 11 кл., СШ №5 | ням. мова | Дыпл. II ст. | Аляксандр Круглы |
| | Дзмітры Калеснікаў | 10 кл., СШ №1 | ням. мова | Дыпл. II ст. | Алена Леановіч |
| | Віталь Васільеў | 9 кл., СШ №9 | біялогія | Дыпл. III ст. | Антаніна Пазнякова |
| | Віктар Жаўняровіч | 9 кл., СШ №9 | інфарматыка | Дыпл. III ст. | Алена Гусева |
| | Яўген Мельнікаў | 11 кл., САШМ | гісторыя | Дыпл. II ст. | Эма Гурчанка |
| | Сяргей Сяляўка | 9 кл., СШ №7 | гісторыя | Дыпл. I ст. | Тэрэза Аноп |
| | Таццяна Сыраежка | 10 кл., гімназія | руск. мова | Дыпл. I ст. | Святлана Юрэвіч |
| | Сяргей Сальнікаў | 8 кл., гімназія | інфарматыка | Пахв. водгук | |
| **Вілейка** | Алена Васільева | 9 кл., СШ №4 | геаграфія | Дыпл. I ст. | Людміла Падгайская |
| | Віталь Кахановіч | 10 кл., СШ №3 | гісторыя | Дыпл. II ст. | Яўген Кулінковіч |
| | Таццяна Леснікова | 9 кл., гімназія | бел. мова | пахв. водгук | Уладзімір Весялуха |
| **Вілейскі р-н** | Таццяна Касяк | 9кл., Крывасельская баз. школа. | бел. мова | Дыпл. II ст. | Алена Гайчук |
| **Ашмяны** | Сяргей Кусанаў | 10 кл., СШ №3 | англ. мова | 6 месца | Людміла Кусанава |
| **Астравец** | Надзея Шаблінская | 9 кл., СШ №1 | бел. мова | * | Ядвіга Шаблінская |
| | Алена Алёхна | 9 кл., СШ №2 | гісторыя | * | Ганна Алёхна |
| **Мядзел** | Таццяна Броска | 9 кл., Нарач, СШ№2 | біялогія | 4 месца | Іна Грыгарцэвіч |
| | Ларыса Сівіцкая | 10 кл., Нарач, СШ№2 | біялогія | Дыпл. III ст. | Іна Грыгарцэвіч |
| **Смаргонь** | Дзіна Барэйка | 10 кл., школа-гімн. №4 | гісторыя | Дыпл. III ст. | Ірына Абушка |
| **Валожын** | Англ. мова, матэматыка, геаграфія. Лепшы вынік - 15 месца. | | | | |

Заўвагі*– няма дадзеных з Гродна.

*Аддзел інфармацыі*

## Аднакласнікі выходзяць на рэспубліку

***З дзевяцікласнікамі маладзечанскай СШ №9 Віктарам Жаўнаяровічам, Віталем Васільевым і іхнімі настаўніцамі гутарыць Таццяна МІР.***

**Віктар Жаўняровіч**

***- Перамога дасталася табе лёгка?***

- Я б не сказаў. У школе я асвойваў "Карвет", а на ўсіх алімпіядах прыйшлося працаваць на IBM. Не з лёгкіх былі і заданні.

***- Дома камп'ютэр маеш?***

- Не.

***- Значыць, прыходзіш займацца ў школу, і колькі займае камп'ютэр?***

- Больш за 4 гадзіны, аднак для мяне гэтага малавата.

Настаўніца **Алена Гусева**

***- "Карвет" не перашкодзіў Віцю заняць першыя месцы ў горадзе і вобласці, увайсці ў тройку прызёраў на рэспубліцы. Што вы адчувалі, калі даведаліся пра вынікі алімпіяды ў сталіцы?***

- Галава закружылася. За Віцю была вельмі радая, а ён сапраўды дастойны перамогі.

***- Вашыя пажаданні вучню і на будучыню ці параіце яму звязаць жыццё з камп'ютэрамі?***

- Калі будзе паступаць у ВНУ, то каб абавязкова паступіў. Натуральна, раю яму звязаць жыццё з інфарматыкай - гэта ж так цікава.

**Віталь Васільеў**

***- Звычайна вучні не надта шануюць біялогію, а ты чамусьці спыніў свой выбар менавіта на ёй. Як даўно?***

- Біялогія мне спадабалася ў шостым класе, калі толькі пачалі яе вывучаць. Мне хацелася ведаць як мага болей пра жыццё чалавека, жывёл, раслін.

***- Не памылюся, калі скажу, што дома ў цябе ёсць нейкія жывёлы. Ты на іх эксперыменты не праводзіў?***

- Пакаёвыя жывёлы ёсць, аднак доследаў на іх не было. Праўда, былі выпрабаванні на матыльках - вывучаў іхнія паводзіны ў розных умовах.

***- Далейшае жыццё звяжаш з біялогіяй?***

- Добра яшчэ не ведаю. Але мару паступіць у медыцынскі.

Настаўніца **Антаніна Пазнякова.**

***- Рыхтаваць Віталя да алімпіяды было цяжка?***

- Не сказала б. Гэта ўсебакова развіты чалавек. Да прыкладу, ён добра малюе і ягоныя работы не раз выстаўляліся. "Захварэў" ён на біялогію пасля таго, як выйграў гарадскую алімпіяду. Пачалі рыхтавацца да абласной. Атрымалася і там. "Па інерцыі" добра ён выступіў і на рэспубліцы.

***- Што пажадаеце Віталю?***

- Ён хоча стаць урачом - поспехаў яму ў гэтай справе. Хаця калі яго памкненні зменяцца, я не асабліва пакрыўджуся. Галоўнае, каб прафесія яму падабалася. На мой погляд, біялогія - навука будучага, толькі ёй пад сілу вырашаць пытанні, звязаныя з раскрыццём магчымасцяў чалавека, здароўем, ежай. Але канчатковы выбар за самім Віталем.

ЗОРКІ МАЛАДЗЕЧНА

# "Стыль" "Барбі" - "Грацыя"

***МАЛАДЗЕЧНА. У мінулую суботу на шоў-праграме "Зоркі Маладзечна" ў ДК чыгуначнікаў ззялі маленькія агеньчыкі. Юныя таленты ва ўзросце ад 5 да 18 год вызначалі лепшых у танцы, вакале.***



*Юля Бажко*



*Саша Салаўёў*

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА

Нялёгка было працаваць журы, бо без пачуццяў глядзець у вочы дзяцей, якія атрымліваюць першыя кветкі, немагчыма. Але гэта конкурс, таму абавязкова ёсць пераможцы і пераможаныя.

Гран-пры і грашовую прэмію атрымаў **Саша Салаўёў**; яму ж аддалі і прыз глядацкіх сімпатый. Дыпломам I ступені за танец са свечкамі ўзнагароджана старэйшая група студыі "Грацыя" (кіраўнік **Дзмітрый Хаўронін**), дыпломам II ступені - **Юля Лаўчая**, якая спявала песню на англійскай мове, дыпломам III ступені - **Насця Жук**.

Асобна адзначана **Юля Бажко** - як самая маленькая спявачка (дзяўчынцы ўсяго 5 год).

Сярод прыхільнікаў юных талентаў быў заўважаны **Віталь Скадорва**, які сёлета стаў лаўрэатам конкурсу эстраднай песні і танца "Белая Русь-98".

***- Упершыню на гэтым фестывалі?***

- Першы раз я апынуўся тут два гады таму, калі рыхтаваў удзельнікаў, але сам канкурсантам не быў.

***- I якія ўражанні ад убачанага?***

- Самыя прыемныя. Удзельнікі паказалі неблагі ўзровень, асабліва, калі ўлічыць, што конкурс усё ж перыферыйны.

***- Хто з выканаўцаў найбольш спадабаўся?***

- Наутральна, лаўрэат гран-пры. А яшчэ **Таня Скудзельнік**, якая спявала песню "Трэба закахацца". Яна добра трымалася на сцэне; гэта тое, што мы і хацелі б убачыць.

***- Значыць, ёсць незадаволенасць рашэннем журы?***

- У цэлым, на мой погляд, яно ўсё вызначыла правільна. Але засталіся незаўважанымі некаторыя па-сапраўдным таленавітыя дзеці.

***- Колькі слоў у падтрымку тых, каму не пашчасціла.***

- Не адчайвайцеся. Галоўнае - удзел. Паспытайце сябе яшчэ, не сядзіце на адным месцы - і да вас прыйдзе поспех. Як узнагарода за работу над сабою.

*АЛЯКСАНДРА.*

РЫНАК ПРАЦЫ

# Менеджэр з няпоўным сярэднім

***МАЛАДЗЕЧНА. На рынку працы змянілася сітуацыя. Калі раней было 300 вакансій, то цяпер – больш за 600. Узровень беспрацоўя знізіўся да 2,5%.***

Рашэннем гарвыканкома зацверджаны новыя нормы грамадскіх работ на красавік-чэрвень. Усе беспрацоўныя (за рэдкім выключэннем) мусяць адпрацаваць 2 дні ў месяц. Цэнтр занятасці заключыў дагаворы з 25 арганізацыямі. У асноўным, людзі будуць працаваць у калгасах на пераборцы агародніны, у будаўніцтве і на добраўпарадкаванні горада.

Разлік з работнікамі - штодзённы. Транспартныя выдаткі цяпер часткова кампенсуе цэнтр занятасці.

Сярод работадаўцаў - фермерская гаспадарка з Аляхновічаў. Яе гаспадар карыстаецца ў беспрацоўных асаблівай павагай. Акрамя таго, што разлічыцца, яшчэ і абедам пакорміць.

Мінулай вясной калгасы давалі "грамадскасці" ў сярэднім па 30 тысяч у рукі ды вядро бульбы.

Сёння цэнтр прапануе каля 20 спецыяльнасцяў для перанавучання. Але трапіць у студэнты нялёгка. Да прыкладу, на I паўгоддзе ўсе групы скамплектаваныя. Па плане трэба перанавучыць 340 чалавек. Ад пачатку года 21 беспрацоўны атрымаў спецыяльнасць краўца, 25 - прадаўца, 12 - менеджэра. Большая частка з іх працаўладкаваная. Асаблівым жа попытам карыстаюцца курсы па падрыхтоўцы спецыялістаў для будаўнічых арганізацый.



У цэнтры адкрыты кабінет прафарыентацыі. У красавіку яго наведаюць выпускнікі гарадскіх СШ №2, №5. Гаворка з імі пойдзе аб сітуацыі на рынку працы, знаёмстве з прафесіямі (да паслуг патэнцыяльных кліентаў ёсць фільматэка). Кожны будзе месць магчымасць пратэставацца - на што ён можа ў гэтым жыцці прэтэндаваць.

*Васіль САВІЦКІ.*

САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

*Працяг. Пачатак у №№ 8-14.*

## Шэлтэр

Шэлтэр (прытулак), які мы наведалі, адзіны ў Аёве бясплатны, куды можа практычна ў любы час прыйсці кожны, хто мае патрэбу ў начлезе і ежы. Трапіць сюды мае права той, у каго месячны заработак не перавышае 855 доляраў.

Праўда, калі чалавек прыйшоў і зарэгістраваўся, то абавязаны да ночы вяртацца ў прытулак. Інакш два дні яго сюды не пусцяць. Пакаранне такое. Пры ўваходзе абшукаюць - каб ніхто не прынес наркотыкі ці спіртное. Аднаго бамжа сустрэлі ажно ў белых шкарпэтках. У асноўным, сюды ідуць каляровыя.

Ёсць наведвальнікі, якія жывуць тут дзень-два, некаторыя ж - і па некалькі год. За гэты час можна знайсці работу, падзарабіць грошай, каб арандаваць сабе нармальнае жыллё.

- Гэта, натуральна, не "Hilton",- гаворыць адзін з кіраўнікоў шэлтэра **Джым Макуіні**,- але мы імкнемся, каб тут было чыста і ўтульна.

Шмат дапамагаюць цэрквы - з ежай, грашыма. Прыходзяць адтуль добраахвотнікі, па першым часе нават дазвалялі беспрытульных у сваіх падвалах размяшчаць. Свае грошы на ежу шэлтэр не выдаткоўвае.

Статыстыку наведвання і прабывальнікаў трымаюць у камп'ютэры. Справа дапамогі вяртання людзей да нармальнага жыцця, пошукаў работы тут лічыцца важнай.

Прыходзяць і цэлымі сем'ямі. Па-магчымасці, у такія цяжкія для бацькоў дні іх стараюцца



*Кандыцыянеры працуюць нават у сталоўцы. Калі тут можна спакойна пачытаць газету, то маркотнага ўражання не ўзнікае.*

не раздзяляць з дзецьмі. Хаця мужа і жонку размяшчаюць у розных аддзяленнях.

Для прабывальнікаў арганізуюцца юрыдычныя кансультацыі. Раз на тыдзень - медыцынскі агляд, кансультацыі і дапамога ўрачоў. Бясплатна, нагадаю.

Прычыны, па якіх трапляюць сюды, самыя розныя. Аснову складаюць наркаманы, алкаголікі. Нярэдкія і псіхічна хворыя. У любым выпадку прыходзяць людзі, якія перажываюць у сваім жыцці складаны момант (гэта могуць быць эмігранты або тыя, хто пераязджае з месца на месца).

- Не варта іх асуджаць,- упэўнены Джым.- Трэба даць ім жыллё і ежу.

У шэлтэры дзейнічае сістэма страховак: калі хто што–небудзь сюды прынясе і маёмасць гэтая згарыць, да прыкладу, то ўрон пакрывасцца на суму да $10000, за раненне - $5000.



*Пасцельная бялізна мяняецца штодня.*

ФОТА УЛАДЗІМІРА БІТЭЛЯ.

Страхоўка пакрывае, калі нехта з членаў савета грошы шэлтэра па чэку сабе забярэ. Калі ад старасці зламаецца нейкае абсталяванне. Калі ж каго заб'юць тут, то па суду шэлтэр могуць пакараць да $1000000 - але ж і тут страхоўка ў справу ўступае.

За мінулы год з дапамогаю страхоўкі ("з падачы" аднаго з членаў савета ўдала выбралі ўмовы заключэння здзелкі) шэлтэр змог зэканоміць каля $6000. Гэта пры тым, што страхавы агент бывае тут раз на год - каб паведаміць аб змяненнях ва ўмовах дамовы або папярэдзіць аб магчымых зменах у страхавой палітыцы.

Кожны апошні панядзелак месяца збіраецца савет дырэктараў шэлтэра. Галоўнае, дзе ўзяць грошы. Амаль палавіну бюджэту прытулку выдзяляе ўрад (калі шэлтэр яшчэ дакажа, што ён дастойны гранта!), астатняе выдзяляюць бізнес, цэрквы, асобныя грамадзяне. Нейкі анонім, да прыкладу, з 1995 года пачаў даваць па $25000 штогод, сёлета сума вырасла да $60000, без гэтага сальда было б адмоўнае.

- Як яго здароўе?- цікавяцца члены савета.

Падчас паводкі і наваднення 1993 года, калі Мізуры і Місісіпі выйшлі з берагоў, з'явілася невядомая філантропская арганізацыя, якая аказвае дапамогу амаль паўтысячы (!) арганізацый.

Што-нішто здаюць у арэнду, і грошы, такім чынам, круцяцца ў банку, што дае магчымасць папоўніць рахунак шэлтэра.

Але адначасова існуюць жорсткія крытэрыі прыняцця ў савет новых цэркваў, далёка не кожны можа атрымаць права на ахвяраванні ці дабрачынную дапамогу.

Характэрна, што сума гранта пакрысе павялічваецца, а колькасць прабывальнікаў шэлтэра змяншаецца. Значыць, усё болей грамадзянаў знайшлі свае месца ў гэтым жыцці. Дарэчы, узровень беспрацоўя ў Аёве на 3% ніжэйшы за агульнаамерыканскі.

Не падобна, згадзіцеся, на хворае капіталістычнае грамадства. Дабрачыннасць жа наогул характэрная з'ява для Аёвы. Гэта пры тым, што амерыканцы – страшныя індывідуалісты.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (тыс. руб.) 1.04 | 8.04 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 80 | **79,8** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 265 | **270** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | адсут. | **адсут.** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 42,5 | **41** |
| Рыс | 1 кг | 23,1 | **23,1** |
| Цукар | 1 кг | 26,1 | **28,5** |
| Грэчка | 1 кг | 26,5 | **26,5** |
| Алей | 1 л | 54 | **52** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 28,5 | **23,9** |
| Маянэз | 250 г | 14,5 | **12** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 63 | **62** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 21 | **22** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 22 | **24,4** |
| Лімоны | 1кг | 60,2 | **64,8** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 30 | **25** |
| Масла | 1 кг | 75 | **75** |
| Тварог | 1 кг | 35 | **30** |
| Малако | 1 л | 7 | **9** |
| Бульба | вядро | 70 | **80** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 30 | **32** |

ПЁС І КОТ

## Карміць ці?..

***Вялікі сабака хоча есці не меней, чым вашае дзіця, гэта вядома. Але без чатырохногага сябра ці папугая, што несупынна балбоча, у доме бывае сумна і пуста.***



Трэба вырашыць - карміць ці... А калі карміць, то колькі каштуе яго "спажывецкі кошык". Для катоў і кацянятаў традыцыйны "Кіці–Кэт" у пакетах па 400 г – 50000 рублёў, кілаграм мойвы – 32000 рублёў. Проса для кашы сабаку – 17500 рублёў/кг. А можна падапечнага пабалаваць і адразу купіць галаву цяляці за 40000 рублёў, гэта танней, чым кілаграм костак. Набор крошак для папугая – 38 тыс. руб.

А можна проста зэканоміць: скарміць папугая кату.

*Вінцэсь ПУХ.*

АДНА ЗЯМЛЯ

## Каб зямля не была пухам?

***ВАЛОЖЫН.*** Актывісты мясцовай ветэранскай арганізацыі працягваюць збіраць аўтографы.

Сотні подпісаў супраць ратыфікацыі ўрадавага пагаднення з Германіяй яны маюць ужо. Гаворка ідзе аб доглядзе за магіламі нямецкіх салдатаў на тэрыторыі Беларусі.

*Ларыса КАРНЕЕВА.*

## Найвялікшы пад'ём

***МАЛАДЗЕЧНА.*** Мінулагоднія вынікі фінансава-гаспадарчай дзейнасці падвёў сход акцыянераў ААТ "Маладзечнажалезабетон".

На ім адзначана, што 1997 год даў самы вялікі валавы ўнутраны прадукт за ўсю гісторыю прадпрыемства. Але высокія падаткі, дзяржаўнае рэгуляванне цэнаў, пастаянныя рэвізорскія і кантрольныя праверкі не даюць магчымасці сканцэнтравацца непасрэдна на выпуску прадукцыі.

На ААТ вялікая зношанасць тэхабсталявання (каля 80%), што і прадвызначае невысокую (6%) рэнтабельнасць вытворчасці і 108-рублёвыя дывідэнды на адну акцыю.

Кіраўнік таварыства **Мікалай Івашкевіч** гаворыць, што далейшае ў многім залежыць ад калектыву "Маладзечнажалезабетона". Пачалася рэканструкцыя прадпрыемства - ідзе пераход на менш энергаёмкі працэс вытворчасці, будзе выпускацца новая прадукцыя.

*Алесь КАНЧАНСКІ.*

## «Жырыноўка» пад лімон

***ВІЛЕЙКА.*** Сотні гараджанаў збіраюцца ў дарогу, але, на жаль, паедуць яны не на курорты, а на заробкі.

Большасць будаўнікоў імкнецца трапіць у Піцер ці Маскву. У залежнасці ад спецыяльнасці тут можна зарабіць 500-1000 доляраў у месяц. Часам здараюцца цікавыя гісторыі.

Малады хлопец з Вілейкі паехаў у Піцер, без аніякай спецыяльнасці. Па першым часе перабіваўся выпадковымі заробкамі, начаваў з бадзягамі пад цеплатрасай. Потым уладкаваўся памочнікам у кузню. Нечакана ў хлопца выявіўся талент да мастацкага кавальства. Цяпер ён не толькі добра зарабляе (краты для комінаў, ажурныя вароты карыстаюцца вялікім попытам), але і выстаўляе свае работы ў выставачных залах.

Брыгада вілейчан будавала дачу ў Падмаскоўі вядучаму праграмы «Зеркало» **Сванідзе**. На суседні ўчастак прывезлі экскаватар, каб выкапаць катлаван пад будынак. Уладальнік участка - новы рускі - папрасіў хлопцаў з брыгады зрэзаць некалькі дрэваў, якія заміналі экскаватару.

- Зрэзаць не праблема, але трэба фундзіць, - адказаў адзін.

- У мяне ў машыне дзве бутэлькі «Жырыноўкі», а зверху лімон, - пачулі яны ў адказ.

Прастадушныя беларусы не прывыклі закусваць цытрусавымі, але «лімон» аказаўся мільёнам расійскіх рублёў.

На гэты сезон некаторыя вілейчане збіраюцца ў зямлю «запаветную» - Ізраіль. Часта будаўніцтва вядзецца на арабскай тэрыторыі, дзе нярэдка гучаць стрэлы і выбухі. Аднак калі заробак каля 1000 доляраў, хто ж звяртае ўвагу на такія дробязі?

- Я мару пра той час, калі змагу зарабляць на добрае жыццё тут, у Вілейцы, - сказаў адзін з такіх работнікаў.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

12 КРАСАВІКА – ДЗЕНЬ КАСМАНАЎТЫКІ

# Запуск Гагарына звязаны з востравам святой Алены і Вілейкай

***Дзень 12 красавіка 1961 года назаўсёды ўвайшоў у гісторыю чалавецтва. 37 год таму чалавек, грамадзянін СССР, Юрый Гагарын, упершыню пабываў у космасе, зрабіўшы свой подзвіг бессмяротным. Паміж СССР і ЗША даўно ішло тайнае саперніцтва за любое першынства, а ў такой перспектыўнай галіне, як касманаўтыка, тым больш. Усё рабілася ў вялікім сакрэце.***

Многае тады было ўпершыню і нязведанае.

Сістэмы назірання за касмічнымі апаратамі былі недасканалымі, спадарожнікаў сувязі не было. І таму для такіх мэтаў часам прыцягвалі звычайныя марскія караблі, якія маглі дыслацыравацца ў любой неабходнай кропцы сусветнага акіяна.

Так і напярэдадні запуску "Усхода" ў сакавіку 1961 года з порта прыпіскі Адэса выйшаў у плаванне ў раён экватара ў Атлантычны акіян цеплаход "Краснадар". Акрамя спецыяльна падабранага экіпажа, на ім была ўстаноўлена неабходная апаратура, якая абслугоўвалася навукоўцамі. Ніякага грузу, акрамя патрэбнага баласту, на судне не было. Яно, фактычна, баражыравала па акваторыі.

Дзіўнымі паводзінамі савецкага цеплахода зацікавіліся амерыканцы. Над "Краснадарам" неаднаразова пралячалі іхнія самалёты-разведчыкі.

Экіпаж судна падбіралі старанна, з ліку лепшых маракоў усяго параходства. У гэты штат быў залічаны матросам і ўраджэнец вёскі Каралеўцы Вілейскага раёна **Уладзімір Занкавіч**.

У час свайго незвычайнага плавання маракі пры пераходзе экватара адзначылі свята Нептуна. Хто рабіў гэта ўпершыню - прымаў марскую купель. Яму выдаваўся дыплом з правам плавання ва ўсіх марах і акіянах. Члены экіпажа цеплахода наведалі востраў Святой Алены, куды ў 1815 годзе пасля паражэння ў бітве пры Ватэрлоо англічане саслалі палоннага французскага імператара Напалеона Банапарта І. У 1821 годзе пры загадкавых абставінах ён тут памёр. Пахавалі яго на востраве. Цяпер тут ёсць музей Напалеона. Сюды наведваецца шмат турыстаў.



*У музеі Напалеона на в. Св. Алены. Ля гарматы — Уладзімір Занкавіч.*



*Вучэбна—пажарная трывога на цеплаходзе. Уладзімір — злева.*

Пасля таго, як Гагарын паспяхова прызямліўся пасля 90 хвілін свайго касмічнага палёту, паступіла каманда, што "Краснадар" можа вяртацца на Радзіму. Экіпаж выканаў пастаўленую перад ім задачу. Яму была аб'яўлена падзяка ад вышэйшага кіраўніцтва краіны, а абставіны таго паходу надоўга было забаронена расказваць.

Цяпер Уладзімір жыве ў Мінску, працуе на чыгунцы. У тым гістарычным плаванні ён адзначыў сваё 22-годдзе.

*Анатоль РОГАЧ,*

ФОТА З АРХІВА УЛАДЗІМІРА ЗАНКАВІЧА.

